 

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 21 (65) БЕЛАСТОК, 26 МАЯ 1957 г. ГОД II

## Трэба паказаць грамадству Польшчы матэрыяльную культуру беларусаў

Прабываючы ў нашых вёсках вельмі часта прыходзіцца сустрэцца з прыгожымі экспанатамі народнай выяўленчай творчасці. Часта прыходзіцца сустрэцца з вельмі здольнымі майстрамі, якія маюць «залатыя рукі».

На старонках «Нівы» мы расказвалі неаднаразова аб іх. Друкавалі здымкі з іх вырабамі. Есць іх у нас на многа больш і дыяпазон іх творчасці на многа шырэйшы.

Колькі ж прыгожых арыгінальных дываноў, ручнікоў, рубашак зробленых рукамі жанчын можна забачыць у беларускіх вёсках. Можна сустрэць шмат цікавых вырабаў з дрэва. Ганчары робяць арыгінальныя вырабы з гліны. Ды і не пералічыш усяго. Адно трэба сцвярдзіць: матэрыяльная культура беларусаў вельмі багатая і варта ёй мацней чым дагэтуль зацікавіцца. Маю на думцы стварэнне музея, у якім экспанаваліся-б культурныя багацці беларускага рэгіёну.

Дагэтуль на Беласточчыне маем тры музеі: у Беластоку, Сувалках і Ломжы. Першы абразуе культуру ўсяе Беласточчыны, а астатнія акрэсленых раёнаў.

Нажаль у Беластоцкім музеі няма аддзела, які адлюстроўваў-бы матэрыяльную культуру пражываючых тут беларусаў. Есць што праўда паасобныя экспанаты, але як я сказаў няма ніякай цэласці.

Таму стаіць і перад таварыствам і перад культурнымі дзеячамі Беласточчыны задача — стварыць такую цэласць. Патрэбны музей. Стаіць пытанне: дзе яго памясціць. Найлепш было-б стварыць у адным з паветаў, дзе пражываюць беларусы. Пакуль што аднака-ж ані ў Бельску, ані ў Гайнаўцы няма варункаў каб яго там памясціць. Няма папросту будынка. Але ёсць Белавежа. Думаю, што пры існуючым там музеі можна-б было знайсці, пакуль што, адну залу на патрэбы музея. З часам знайшоўся-б іншы выхад. Гэта пакуль што адна праблема, якую трэба вырашыць, думаючы аб арганізацыі музея.

Далейшая асноўная справа, гэта экспанаты. Беластоцкі музей мог-бы пераказаць частку сваіх. Але гэта кропля ў моры, у параўнанні да таго, што можна мець.

Таму трэба шукаць экспанатаў у нашых вёсках. Хто гэта рабіў бы?

Перадусім БГ-КТ пры дапамозе Аддзелаў культуры, школ і маладзёжных арганізацыяў.

Такую дапамогу абяцае Павятовае Праўленне ЗМВ у Гайнаўцы. Іншыя паветы не застануцца з-заду. Моладзь можа многа дапамагчы і напэўна дапаможа.

ГП БГ-КТ павінна абмеркаваць гэтую справу з Павятовымі праўленнямі, а тыя з чаргі перанесці ініцыятыву да гурткоў. Там знойдуцца людзі, якія цікавяцца гэтымі справамі і падскажуць, дзе і якія экспанаты можна знайсці.

Думаю, што на працягу года можна будзе сабраць экспанаты і сарганізаваць выстаўку. Пакуль што экспанаты збіралі-б аддзелы Таварыства і пераказвалі-б іх у ГП. Тут, пры дапамозе працаўнікоў Беластоцкага музея, адбіраліся-б найлепшыя і найцаннейшыя.

Да часу сарганізавання аддзельнага музея можна стварыць беларускі аддзел у Беластоцкім музеі.

З гэтым вяжацца яшчэ адна справа. Грошы. Частку экспанатаў, найбольш цэнных, трэба будзе купляць. А Ваяводскі Аддзел культуры мае мала грошай на ўспамянутыя справы. Тым не менш, можа дапамагчы. Думаю, што пэўныя сумы знойдуцца і ў ГП БГ-КТ.

Аднака-ж на вялікія сумы лічыць не можна. Трэба разгарнуць вялікую грамадскую працу ў мэце рэалізацыі гэтай задачы.

Так сарганізаваліся сувальскі і ламжынскі музеі. Вялікіх перашкод не будзе і тут.

Трэба толькі знайсці людзей, якім гэта справа так сказаць «ляжыць на сэрцы» ГП павінна ўжо абмеркаваць план працы і прыступіць да яго ажыццяўлення.

М. МАТЭЙЧУК.



*25 мая гэтага года споўнілася 40 год з дня смерці выдатнага беларускага песняра Максіма Багдановіча.*

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ.

## МЯЖЫ

Кінь вокам на увесь абшар зямлі:
Вось хату шчыльна абышлі
Парканы з вострымі цвікамі,
Пасыпаныя бітым шклом.
Глядзі — ў прасторах за сялом
Мяжамі
Падзелены на нівах каласы,
Ідуць канаўкі праз лясы,
І стопудовыя гранітныя камённі
Сярод лугоў бясскрайных заляглі.
Шнуры штыкоў па ўсёй зямлі
Гараць, як дзікае хаценне.
На гасударстваў рубяжы.
Глядзі: паўсюль мяжы.

Нязмерны вольныя прасторы
Святой зямлі, — а чалавек
Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век.
Хаваўся ў іх, як ліс у норы,
І жыў пужліва сам — адзін,
Дрыжачы, як лісцё асін,
Зласлівы, бессардэчны, хцівы,
Такі здрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы.
Вакол яго — платы, мяжы.
Пабач, што робіцца за гэтымі платамі!
У надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд,
Каторы моцнымі рукамі
Стварыў усе багацтвы на зямлі.
Правёў ён скібы на раллі,
Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў коміны падняў у выш нябёс.
А сам даўно сляпы ад слёз
І ўжо забыўся аб ратунак.
Глядзі: па ўсёй зямлі святой
Шырокай хваляй залатой
Без краю блішча збожжа мора,
Цвітуць лугі, шумяць лясы...
Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,
А людзі нішчацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



 


Першамайская дэманстрацыя.


Дэлегацыя вітае дэманстрантаў.



У музеі Міцкевіча ў Навагрудку.


Над Нараччу.


Ля 40 тановага самазвала.


У музеі Айчыннай вайны.

# 7 дзён на Беларусі

## З пабыўкі дэлегацыі ГП ТПП-Р і ГП БГ-КТ у БССР

1 МАЯ.

У Мінск прыехалі мы за дзесяць гадзін да пачатку першамайскай дэманстрацыі. Крыху здрамнуўшы ў гасцініцы «Беларусь», роўна у 11 былі мы на Цэнтральнай плошчы, дзе маршал Цімашэнка аб'язджаў выстраенае на парад войска. Неўзабаве пачаўся і сам парад. Цэнтральная плошча вельмі надаецца да гэтага рода мерапрыемстваў. Прасторная і вялікасная. Зрэшты ва ўсім новым Мінску адчуваеш сябе свабодна, а прытым і святочна. Сёння Мінск, акрамя прыроднага святочнага выгляду, упрыгожаны чырвонасцю сцягоў, сярод якіх перавяжаюць з зялёнай палоскай і арнаментам — дзяржаўны сцяг БССР. Вайсковы парад як і дэманстрацыя працоўных беларускай сталіцы працягваліся парайнальна нядоўга і аставілі на нас прыемнае ўражанне.

Вечарам былі ў тэатры Янкі Купалы. Ставілася п'еса маладога аўтара І. Мележа «Пакуль вы маладыя». П'еса з жыцця маладых інжынераў.

2 МАЯ.

Нарач. Цудоўнае возера. Недарма прыцягвае яно вока паэтаў і турыстаў. Жаль, што купацца яшчэ нельга — холадна. Па гэтай прычыне развялі на беразе касцёр. Тут і палуднавалі. Надзвычай смакавітай аказалася бульба, прыгатаваная на месцы. Усе мы былі вельмі ўдзячны гаспадарам за прыемна праведзены дзень. У Мінск вярнуліся позна.

3 МАЯ.

Былі ў музеі Айчыннай вайны. Нашу дэлегацыю асабліва зацікавілі матэрыялы, якія датычаць партызанцкага руху на Беласточчыне. Варта было-б нашым таварышам, якія займаюцца вывучэннем гісторыі Беласточчыны ўстанавіць сувязі з музеям. Для абедзвюх старон такая сувязь была-б вельмі карыснай.

Вечар правялі ў клубе трактарнага завода, дзе выступаў з канцэртам хор Цітовіча. Хор рыхтуецца да Маскоўскага фестывалю. Яго арганізатар і кіраўнік цесна звязаны з Беласточчынай, дзе да вайны абышоў не мала вёсак і сабраў шмат фальклору, які апрацоўвае і ўключае ў праграме хору. А «Рэчанька», якую Цітовіч запісаў у Нараўцы — гэта гвоздь праграмы хору. Песня гэта здабыла шырокую папулярнасць не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі. Хор выконвае таксама і польскія песні, запісаныя збіральнікам і кампазітарам на Беласточчыне.

4 МАЯ.

Аглядалі горад, былі на Аўтамабільным заводзе, а затым у Дзяржаўным Рускім Драматычным Тэатры БССР ім. М. Горкага. З горадам я ўжо ў мінулым годзе пазнаёміўся, але з не меншай цікавасцю аглядаў яшчэ раз. Палюбіў я Мінск, як і маі таварышы.

У гэтым годзе новыя вуліцы горада звяртаюць увагу абліцоўкай дамоў. Замест штукатуркі стасуюцца абліцовачныя кафлі, цаглястага колеру. Прыгожа і трывала.

На аўтазаводзе нашу ўвагу звярнуў перш за ўсё 40-тановы самазвал - Волат. Пакуль што адзіны экземпляр. Ясна, што сфатаграфаваліся пры ім. Не хутка прыдзецца бачыць гэткую аграмадную машыну.

Тэатр ставіў «Аптымістычную трагедыю» Усевалода Вішнеўскага. Перакананайча артысты аддалі атмасферу часоў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Асабліва падабаўся засл. арт. БССР Г. К. Некрасаў у ролі матроса Аляксея. У цэлым п'еса робіць сільнае ўражанне, рэжуць вуха толькі натуралістычныя гукавыя эфекты.

5 МАЯ.

Гэты дзень астанецца асабліва памятным для нашай дэлегацыі. Былі ў Навагрудчыне, на радзіме Адама Міцкевіча. Усіх нас кранула клапатлівасць, з якою ахоўваюцца памяткі, аб вялікім польскім паэце. У Шчорсах, не менш цікавым ад дуба, пад якім Міцкевіч пачаў пісаць «Гражыну», аказалася калгасная электрастанцыя, утрыманая з выключнай любоўю. Здавалася, што знаходзімся прынамсі ў прыёмнай мінісра, або ў аранжарэі. Старшыня калгаса, Ганна Трафімаўна Кумец — выдатны прататып пазітыўнага героя повесці аб станаўленні калгаснага жыцця ў заходнебеларускай вёсцы. Надзвычай энергічная і разумная жанчына.

Світязь па-стараму чароўнае.

6 МАЯ.

Мінск. Наведалі домік, дзе адбыўся I З'езд РСДРП. Потым былі ў майстэрні выдатнага беларускага скульптара — З. Азгура. Гутарылі аб сучасным мастацтве. Скульптар — сугестыўны субяседнік і поўнасцю рэаліст. Было-б такіх больш у нас. Цяпер працуе над Францішкам Багушэвічам.

У вечары былі ізноў у тэатры імя Янкі Купалы, гэтым разам на сатырычнай камедыі Макаёнка «Выбачайце, калі ласка!». Пераарадная рэч! Зусім забыліся, што знаходзімся ў тэатры. Выдатны Малчанаў і Дзедзюшка, а Бараноўскі, у ролі Гарошкі, непараўнаны.

7 МАЯ.

Апошні дзень нашай пабыўкі ў Мінску. Зранку з'ездзілі на Мінскае мора. Гэта велізарны штучны басейн, створаны 15 км ад горада. Даўжыня акружнасці 50 км. Гэта ўлетку сапраўдны рай для мінчан. Пабывалі яшчэ ў музеі Янкі Купалы і развіталіся са сталіцай Беларусі. Выязджаем зачараваны дружалюбным і сардэчным прыёмам, з якім мы сустракаліся штодня, незалежна ад таго, у якім асяроддзі знаходзіліся, ці з кім-бы ні гутарылі. На кожным кроку спаткалі шчырых прыяцеляў які ганарацца сваёй краінай і якіх радуе кожнае асягненне свайго блізкага суседа. Гэта і ёсць інтэрнацыяналізм.

Г. ВАЛКАВЫЦКІ

Фото — Д. ПРЭС


Ля кургана Міцкевіча ў Навагрудку.


У калгаснай электрастанцыі.


Пад дубам Міцкевіча.


Перад Домам Урада.


У майстэрні З. Азгура.


Над Світяззю.

